

DESTINY LEAVES ITS MARK
ARROW
WED 8/7c
THE CW TV NOW
DC COMICS™
BATMAN
13 $3.99 US
THE NEW 52!
SCOTT SNYDER
GREG CAPULLO
JONATHAN GLAPION
DIRECT SALES
DEC 2012
RATED T TEEN
BY COMICS
БЭТМЭН #13 (2011)
ПЕРАКЛАД: COMICSBY
DEATH OF THE FAMILY




Art by **Greg Capullo** for Batman #13, December 2012 cover date, DC Comics

comic book brain.com


«АЗІРАЮЧЫСЯ Ў МІНУЛАЕ, ЗНАКАЎ БЫЛО ДАСТАТКОВА...
...ЗНАКАЎ БУДУЧАГА ЖАХУ.
ПЕРШЫ З ІХ ПРЫНЁС З САБОЙ ДОЖДЖ.
КАЛІ РАНІШНІ СНЕГ ПЕРАКРЫЎ УСЦЕ, ДАЖДЖЫ НАПОЎНІЛІ ГОТЭМСКУЮ РАКУ, ФАКТЫЧНА СПЫНІЎШЫ ЯЕ ЦЯЧЭННЕ НА ЦЭЛЫХ ТРЫ ДНІ.
ДРУГІ ЗНАК З'ЯВІЎСЯ ХУТКА ПАСЛЯ ГЭТАГА. ЛЬВІЦА Ў ГОТЭМСКІМ ЗААПАРКУ НАРАДЗІЛА ПАЧВАРНАЕ ДЗІЦЯНЯ, ІЛЬВЯНЯ З ДВУМЯ ГАЛАВАМІ.
РЭКІ ЦЯКУЦЬ НАЗАД. НАРАДЖАЮЦЦА НЕПРАВІЛЬНЫЯ ЗВЕРЫ.
МЫ ПАВІННЫ БЫЛІ ПРАДБАЧЫЦЬ...


...МЫ ПАВІННЫ БЫЛІ ЗРАЗУМЕЦЬ РАСКЛАД.
ЁН ТАК-САМА ПАВІНЕН БЫЎ.
АСАБЛІВА ЁН.
ГУЧЫЦЬ ДАВОЛІ ПЕРАКАНАЎЧА, ХАРВІ? ЦЯБЕ БЯНТЭЖЫЦЬ, ШТО СКАЖУЦЬ ГАЗЭТЫ?
КАМІСАР, ДЫ ВЫ САМІ МОЖАЦЕ НАПІСАЦЬ АРТЫКУЛ.
Я ТОЛЬКІ КАЖУ, ГЭТА РАКА, ДВУХГАЛОВЫ КАЦЯНЯ... ЯКІМ БЫ Д'ЯБАЛЬСКІМ НІ БЫЛО НАСТУПНАЕ БУЙНОЕ ЗЛАЧЫНСТВА, ПАСЛЯ ЯГО БУДЗЕ ІСЦІ ХВАЛЯ ЗАБАБОНАЎ. НАМ ЛЕПШ ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА ТАГО, ШТО НАС БУДУЦЬ У ЧЫМСЬЦІ ВІНАВАЦІЦЬ.
ГВЗЭТКІ ТАКСАМА БУДУЦЬ ПРАСОЎВАЦЬ АБВІНАВАЧВАННІ. З-ЗА «ЗНАКАЎ» УСЕ І ІХ БАБУЛІ БУДУЦЬ КАЗАЦЬ, ШТО МЫ ПАВІННЫ БЫЛІ ГЭТА ПРАДБАЧЫЦЬ. «ДЗІЎНЫЯ ДНІ» Ў ГОТЭМЕ.
МАГЧЫМА.
І ВАС ГЭТА НЕ ТРЫВОЖЫЦЬ. НІКОЛЬКІ?
КАНЕШНЕ, ТРЫВОЖЫЦЬ. АЛЕ ЯШЧЭ БОЛЬШ МЯНЕ ТРЫВОЖЫЦЬ МОЙ СТРАХ ТАГО, ШТО ЯНЫ БУДУЦЬ МЕЦЬ РАЦЫЮ.
АЛЕ ШЧЫРА КАЖУЧЫ, НА ДАДЗЕНЫ МОМАНТ, ПРАМА ЗАРАЗ, МЯНЕ БОЛЬШ УСЯГО ТУРБУЕ...
...ВОСЬ ГЭТА.
Яшчэ адно
раскрыта
Прабачце,
Камісар


ГЭТА БЫЛО АПОШНЯЕ, ТАК?
УСЕ ЗАЦІШНЫЯ МЕСЦЫ, ЯКІЯ Ў МЯНЕ БЫЛІ, КАБ ПАСМАЛІЦЬ, РАСКРЫТЫЯ І АДЗНАЧАНЫ. Д'ЯБАЛ, У МЯНЕ Ў ДОМЕ ЗАСТАЎСЯ ТОЛЬКІ АДНА СХОВАНКА, І БАРБАРА НАПЭЎНА ХУТКА ЯГО ЗНОЙДЗЕ, ТАК ЯНА МЯНЕ ПЕРАСЛЕДУЕ.
ПРА ШТО Я ТОЛЬКІ ДУМАЮ, КАЛІ ПРАПАНАВАЎ У ЯКАСЦІ ПРЫЗА... ВЫХАДНЫ ДЗЕНЬ?
МАГЧЫМА, ПРА СВАЁ ЗДАРОЎЕ. АЛЕ НЕ МНЕ ПРА ГЭТА КАЗАЦЬ.
МАГЧЫМА, АЛЕ, СУМЛЕННА КАЖУЧЫ, Я НІКОЛІ Б НЕ ПАДУМАЎ, ШТО ЯНЫ САПРАЎДЫ ЗНОЙДУЦЬ ІХ УСЕ.
ОЙ, ГАНАРЫСЯ СВАІМІ ДЗЕЦЬМІ.
ЭХ. ПАРАДАК. ДАВАЙ СЫЙДЗЕМ. МНЕ ТРЭБА СКОНЧЫЦЬ ПАРУ СПРАЎ, ПЕРАД ЗДАЧАЙ ЗМЕНЫ.
«КАЛІ СУР'ЁЗНА, КАМІСАР, ГЭТА ІЛЬВІЦА НАРАДЖАЕ, УСЕ ГЛЯДЗЯЦЬ, УСЕ ДЗЕТКІ З ПАВЕТРАНЫМІ ШАРАМІ.
А ЗАМЕСТ ГЭТАГА З'ЯЎЛЯЕЦЦА НЕЙКІ ДВУХГАЛОВЫ МОНСТАР».
«ПАЛІЦЭФАЛІЯ. ГЭТА НЕ ТАКАЯ ЎЖО І РЭДКАСЦЬ, ЯК ТЫ ЛІЧЫШ».
«ХЕ. СКАЖЫЦЕ ГЭТА ТЫМ ДЗЕЦЯМ, ШТО ЦЯПЕР ЛЕЧАЦЦА...
«...Я ХАЧУ СКАЗАЦЬ, ГЭТУЮ ЧАРТАЎНЮ НЕМАГЧЫМА ВЫКІНУЦЬ З ГАЛАВЫ».
Незабыўнае банкетнае абслугоўванне


КАМІСАР, МЫ ЗНАЙШЛІ ГЭТУЯ ДВАЦЦАТКУ Ў ГАРАЧАЙ КРОПКЕ НА НЭРОЎЗЕ. ВОСЬ ТОЛЬКІ СПРОБА ЁДА АДМОЎНАЯ. ЦІ ВЫ ХАЦІЦЕ, КАБ Я ЗАГАДАЛА ПРАВЕСЦІ БОЛЬШ АНАЛІЗАЎ?
НЕ, НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ. ЯНА АБЯСКАЛЯРОВАНА І ПЕРАДРУКАВАНА.
АЛЕ АДКУЛЬ ВЫ ВЕДАЕЦЕ?
ПА ПАХУ АД КУПЮРЫ.
СУР'ЁЗНА?
ЭМ, НЕ. ДЖЭКСАН ГЛЯДЗІЦЬ НАЛЕВА, А НЕ НАПРАВА, БАЧЫЦЕ?
ШТО... ЯК Я НЕ ЗАЎВАЖЫЛА ГЭТАГА?
НЕ ЛАЙЦЕСЯ НА СЯБЕ, ДЭНІЭЛС. КАЛІ Я БЫЎ У ЧЫКАГА, Я...
ЗЗТ
...
УСІМ СУПАКОІЦЦА. СТОЙЦЕ, ДЗЕ СТАЯЛІ. ГЕНЕРАТАР ПАВІНЕН...
...А ВОСЬ І ЁН. УСЕ...
...У ПАРАДКУ?
НЕ, НЕ ТЫ...


ЗЗТ
ПРЫВІТАННЕ, АБАРОНЦЫ ГОТЭМА! СКАЖЫЦЕ, КАЛІ ЎЖО ЧУЛІ ГЭТА...
...МУЖЫК ЗАХОДЗЕ Ў КАРЧМУ...
УСІМ БЫЦЬ НАПАГАТОВЕ! ГЭТА ДЖОКЕР! ЁН У ГЭТЫМ ПАКОІ!
ДЖОКЕР?
ТУТ ДЖОКЕР?
ОЙ, У ЧЫМ СПРАВА? УЖО ЧУЛІ? НУ, ДОБРА, ДАВАЙЦЕ ПАСПРАБУЕМ НОВЫ МАТЭР'ЯЛЬЧЫК!
ДЖОКЕР! ПАДЫМІ РУКІ... ШТО? ДЗЕ?
ДОБРА, ЯК НАКОНТ ГЭТАГА? АФІЦЭР БРЭДТРЫ! БЛАЗАН УВАХОДЗІЦЬ У КАРЧМУ...
НЕ, КАЛІ ЛАСКА! НЕ ПАДЫХОДЗЬ!
ЧУЎ, ТАК?
ХРАСЬ
СТАРЫ ЖАРТ, ЖОРСТКАЯ ПУБЛІКА!
БРЭДТРЫ, НЕ...
XII XII XIIIIIII
ЗДАЙСЯ, ПАЧВАРА!
ДОБРА, ВОСЬ ТРЭЦІ! АФІЦЭР ГУАДАЛУПЭ! БЛАЗАН ЗАХОДЗЕ Ў ПАЛІЦЭЙСКІ ЎЧАСТАК...
НЕ... Н-НЕ.
ШТО?! І ГЭТЫ ЧУЛІ? ЭХ...
ХРЯСЬ
ХОПІЦЬ!



ОЎ, Я ТОЛЬКІ СПРАБУЮ РАЗСМЯШЫЦЬ, ДЖЫМБО! ГЭТА ТАКСАМА КЛАСІКА.
ТАК ШМАТ ВАРЫЯНТАЎ! «БЛАЗАН У ГАВАЙСКАЙ КАШУЛІ СТУКАЕЦЦА Ў ДЗВЕРЫ» ХІ ХІ... АБО, МАГЧЫМА, «КАЖАН УЛЯТАЕ Ў ПАКОЙ...» АБО НАВАТ «БЛАЗАН УВАХОДЗІЦЬ У ПАЛІЦЭЙСКІ ЎЧАСТАК У ПОШУКАХ СВАЙГО ТВАРА!» ХАХАХА!
ДОБРА, ТОЛЬКІ ПАКІНЬ ІХ ЖЫВЫМІ! ЧУЕШ?! ЦЯБЕ ПАТРЭБЕН Я! ДЫК ПАКІНЬ ЖА ІХ!
ХІ ХІ... О, ДЖЫМІ. ДОБРА, ДОБРА. Я ВЕДАЮ, ДЗЕ Я ПАМЫЛІЎСЯ. Я НУДЗІЎСЯ ПА ТАБЕ, ПАКУЛЬ МЯНЕ НЕ БЫЛО! АМАЛЬ ТАК ЖА, ЯК НУДЗІЎСЯ ПА ЯМУ! АДНАК Я ДАВОЛІ ХУТКА ЯГО ЎБАЧУ. І Ў ЯГО ЁСЦЬ МАЯ ВІЗІТОЎКА...
...З ІНШАГА БОКУ, ТЫ ТАК ДОБРА ВЫГЛЯДАЕШ! І МАЛЕНЬКАЯ БАРБАРА ТАКСАМА!
НЕ СМЕЙ ПРАМАЎЛЯЦЬ ЯЕ ІМЯ!
ВЫ АБОДВА ТАКІЯ ЗДАРОВЫЯ... АЛЕ ПРЫЗНАЦЦА, ТЫ ТАКСАМА І РАСЧАРАВАЎ МЯНЕ, ГОРДО. ТЫ ЎСЁ РОБІШ, КАБ БЭБС ГАНАРЫЛАСЯ ТАБОЙ, А ПОТЫМ БЯРЭШ І ЎСЁ БРАКУЕШ. ТЫ НЕШТА ХАВАЕШ.
ХАВАЕ ЖА, АФІЦЭР МАККЕЙБ?
АДЫЙДЗІ АД МЯНЕ, ТЫ...
ХРАСЬ
НЕ!
ТААААК, КАМІСАР... ТАК, ТЫ ХАВАЕШ РЭЧЫ.
ЯК ТОЙ АПОШНІ ПАЧАК СЫГАРЭТ!
ЯКУЮ ТЫ СХАВАЎ У СВАЁЙ КВАТЭРЫ...
...У ТОЙ АПОШНЯЙ ХОВАНКЕ, ЯКУЮ БАРБАРА НЕ ЎБАЧЫЦЬ... ЯКУЮ НІХТО НЕ ЎБАЧЫЦЬ.
ПАД ТВАІМ ЛОЖКУ, У ДРАЦЯНОЙ СЕТЦЫ.
ЧАСАМ Я ЛЯЖАЎ ПАД ІМ ПА НАЧАХ І ЧУЎ, ЯК ТЫ СПІШ. ОХ І НЕВЯСЁЛЫЯ Ў ЦЯБЕ РАЗВАЖАННІ БЫВАЮЦЬ... ЯК Я ХАЧУ ПРОСТА ПРАЦЯГНУЦЬ СВАЕ РУКІ І...
ХАХАХА ХАХА!
СКРЫП
БЛАМ
БЛАМ


ДЖЫМ, ГЭТА Я!
ДЗЕ ДЖОКЕР?!
ДЗЕ?
ЁН... УШОЎ.
стороннім уваход забаронены
«ШТО ЁН СКАЗАЎ, ДЖЫМ?»
«ЁН СКАЗАЎ...»
«...ЁН ЖАРТАВАЎ. О БОЖА, БЭТМЭН.
ЁН ЖАРТАВАЎ».
НЕАПАЗНАНА. НЯМА СУПАДЗЕННЯЎ.


ЗАПУСЦІЦЬ ПОШУК ПА ФІБРАВАЙ ТКАНІНЕ ЯШЧЭ РАЗ.
НЕАПАЗНАНА. НЯМА СУПАДЗЕННЯЎ.
...
ВЫ ПАВІННЫ БЫЛІ ВЕДАЦЬ, ШТО ЁН КАЛІ-НЕБУДЗЬ ВЯРНЕЦЦА.
ТАК, Я ВЕДАЎ.
ЯГО ТАК ДОЎГА НЕ БЫЛО НА ГЭТЫ РАЗ. НАПЭЎНА, ТАМУ Я ДАПУСЦІЎ, ШТО НЕЙКАЯ ЧАСТКА МЯНЕ СТАЛА СПАДЗЯВАЦЦА, ШТО МЫ БАЧЫЛІ ЯГО Ў АПОШНІ РАЗ.
АЛЕ Я МЯРКУЮ, МАЙСТАР БРУС, КАЛІ ГЭТЫ ПАДНОС З ПРАБІРКАМІ – НЕАБВЕРЖНЫ ДОКАЗ ЧАМУ-НЕБУДЗЬ, ТАДЫ ГЭТА...
ГЭТА ДОКАЗ ТАГО, ШТО Я СПЫНЯЎ ЯГО РАНЕЙ, АЛЬФРЭД.
СПЫНЮ І Ў ГЭТЫ РАЗ.
КАНЕШНЕ, СПЫНІЦЕ. ПРАБАЧЦЕ, СЭР. МЯРКУЮ, НЕ ЦЯЖКА ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО, КАЛІ СПРАВА ТЫЧЫЦЦА ЯГО, Я ДАЗВАЛЯЮ САБЕ... І ВАМ... БОЛЬШ СПАДЗЯВАЦЦА. І БАЯЦЦА.
БАЯЦЦА?


Я ХАЧУ СКАЗАЦЬ, ЁН ДАЗВОЛІЎ НЕЙКАМУ ДРУГАГАТУНКАВАМУ ДОКТАРУ ФРАНКЕНШТЭЙНУ ЎЗЯЦЬ ВЕРХ НАД САБОЙ І АДРЭЗАЦЬ САБЕ ТВАР.
ПОТЫМ ЁН ЗНІК НА ГОД, КАБ ЗАГАІЦЬ СВАЕ РАНЕННІ, І ЦЯПЕР ВЯРТАЕЦЦА І КРАДЗЕ СВОЙ ТВАР. І ШТО З ГЭТАГА?
СУПАКОЙСЯ, ПЕНІВОРТ. МАГЧЫМА, ДЖОКЕР БЫЎ ЯКІМ-НЕБУДЗЬ ВЯЛІКІМ СУПЕРНІКАМ МАЙГО БАЦЬКІ, АЛЕ ЦЯПЕР З ІМ СКОНЧАНА.
НЕ НЕДААЦЭНЬВАЙ ЯГО, ДЭМІЕН. ШТО Б ЁН НІ РАБІЎ УВЕСЬ ГЭТЫ ГОД, ЁН НЕ ЗАГОЙВАЎ СВАЕ РАНЕННІ.
І ЁН НЕ ДАЎ ЛЯЛЕЧНІКУ ЎЗЯЦЬ ВЕРХ НАД САБОЙ. ЁН ДАЗВОЛІЎ АДРЭЗАЦЬ САБЕ ТВАР. ЁН ПАКІНУЎ ЯГО ДЛЯ НАС. ЯК ПАСЛАННЕ.
ЭТТ?
ПАСЛАННЕ?
ШТО ЯНО ЗНАЧЫЦЬ?
ПАКУЛЬ Я НЕ УПЭЎНЕНЫ.
БЫТМЭН, ВЫКЛІКАЕ НАЙТВІНГ.
СЛУХАЮ, НАЙТВІНГ.
ГЭТА ПРАЎДА? ЁН ВЯРНУЎСЯ?


ТАК, ПЭЎНА, ГЭТА ТАК.
УЖО СКАЗАЎ БЭТГЁЛ?
Я ДУМАЎ, МАГЧЫМА, ЯНА ХУТЧЭЙ ПАЧУЕ ГЭТА АД КАМІСАРА.
БЭТМЭН, ГЭТА ЧЫРВОНЫ РОБІН.
ОКЕЙ, ЯК ЁН ГЭТА ЗРАБІЎ?
ЁН ВЫКАРЫСТАЎ АДНУ З УЛАСНЫХ ІМПУЛЬСНЫХ ГАРМАТ ПДГ, ЯКУЮ ЗНЯЎ ЯЕ З ПАТРУЛЬНАЙ МАШЫНЫ.
ЯНЫ ЎВЯЛІ ІХ НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ НАЗАД, КАБ СПЫНЯЦЬ ПРАСЛЕДУЕМЫЯ МАШЫНЫ. ЁН ВЫКРАЎ АДНУ З ІХ І ЎЗМАЦНІЎ. УЛАДКАВАЎ ЯЕ Ў КАНАЛІЗАЦЫІ ПАД ДЭПАРТАМЕНТАМ, НАКІРАВАЎШЫ ЎВЕРХ.
ВЫКАРЫСТАЦЬ ЗБРОЮ ПАЛІЦЫІ СУПРАЦЬ ЯЕ Ж. ГЭТА АМАЛЬ СМЕШНА. А ГЕНЕРАТАР?
ЁН ПАДАРВАЎ ЯГО ЗВОНКУ. ПАЧАКАЙ.
БЭТМЭН, ГЭТА БЭТГЁЛ. ЧАМУ ТЫ НІЧОГА МНЕ НЕ СКАЗАЎ?.


Я ДУМАЎ, КАМІСАР...
НЕ, ПРА КАМІСАРА. ЧАМУ ТЫ НЕ СКАЗАЎ, ШТО ГЭТЫ КАВАЛАК ЛАЙНА ПРЫЙШОЎ ДА ЯГО.
ДОБРА, НЕ ВАЖНА. ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ НА ЯГО?
НІЧОГА. ЁН УЗЯЎ ТВАР І ЎШОЎ.
АЛЕ ЗА ГОД, З ТЫХ ЧАСОЎ ЯК ЁН ЗНІК?.. У ЦЯБЕ ПАВІННА БЫЦЬ ШТОСЬЦІ.
УВЕСЬ ГОД Я ШУКАЎ ХОЦЬ НЕЙКІ НАМЁК НА ЯГО. СЛЯДОЎ НЕ БЫЛО ЎВОГУЛЕ.
ДЫК ДЗЕ, ЛІХА МАЦЬ, ЁН БЫЎ?
І ШТО ЁН ЗБІРАЕЦЦА РАБІЦЬ ДАЛЕЙ?
МАЙСТАР БРУС...
...ГЛЯДЗІЦЕ...
LIVE GCN




*ГУЛЬНЯ СЛОЎ: «MAYOR» – «МЭР», «MAY-OR-MAY-NOT» – «МАГЧЫМА ТАК, А МАГЧЫМА НЕ».


БЭНГ
РАСПАЗНАННЕ ГОЛАСА ЗАВЕРШАНА, СЭР.
ХТО ЁН?
ГЭТА ДЖОН КЛЭРЫДЖ. СЫН ПАМЕРЛАГА ГЕНРЫ КЛЭРЫДЖА, ДЫЯМЕНТАВАГА МАГНАТА.
ГЕНРЫ КРЭРЫДЖ ТАК САМА БЫЎ...
САМЫМ ПЕРШЫМ ЧАЛАВЕКАМ У ГОТЭМЕ, ЯКОГА ЗАБІЎ ДЖОКЕР, НАКОЛЬКІ МНЕ ВЯДОМА. ТАДЫ ЁН УПЕРШЫНЮ З'ЯВІЎСЯ ТУТ.
ЁН З'ЯВІЎСЯ НА ТЭЛЕБАЧАННІ, ПРАМА ЯК ЗАРАЗ, І ПАТЛУМАЧЫЎ, ШТО КЛЭРЫДЖ ПАМРЭ Ў ПОЎНАЧ.
І?
І ДЖОКЕР АТРУЦІЎ ЯГО ЗА СУТКІ ДА ГЭТАГА. ТАКСАМА ЁН ТАДЫ ЎПЕРШЫНЮ АДКРЫТА ВЫКАРЫСТАЎ ТАКСІН ДЖОКЕРА. УСЁ ГЭТА БЫЛО ЎПЕРШЫНЮ. ЁН ЗАЧЫМСЬЦІ ПАЎТАРАЕ ГЭТА.
БЭТМЭН, МЫ МОЖАМ ДАПАМАГЦІ З ГЭТЫМ.
НЕ. ВА Ў СІХ ВАС СВАЕ ВАЖНЫЯ СПРАВЫ.
АЛЕ БЭТ...
УСЁ ДОБРА. ГЭТА МІЖ НАМІ.
«ГЭТА НЕ АБМЯРКОЎВАЕЦЦА. ПЫТАННЕ ЗАКРЫТА...»



...ШКЛО КУЛЯНЕПРАБІЎНОЕ. СЦЕНЫ НА ГЭТЫМ ПАВЕРСЕ ТАЎШЧЫНЁЙ У МЕТР. ГЭТА КРЭПАСЦЬ, ГОРДАН.
У ГЭТАГА КЛЯТАГА БЛАЗАНА НЯМА ШАНЦАЎ. ЦЯПЕР ТЫ ЎЗЯЎ СТОЛЬКІ МАЁЙ КРЫВІ, ШТО ХОПІЦЬ УТАПІЦЬ ВАМПІРА. ТЫ ПА ВУШЫ НАПАМПАВАЎ МЯНЕ БЭТ-АНТЫДОТАМ ГЭТАГА МСЦІЎЦА, ДАСТАТКОВА, КАБ Я ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў АДНАГО З ІХ.
Я ЎСЁ РАЗУМЕЮ, МІСТАР МЭР, АЛЕ МНЕ ЎСЁ Ж ТАКІ БУДЗЕ СПАКАЙНЕЙ, КАЛІ Ў ГЭТЫМ ПАКОІ БУДУЦЬ МАЕ ЛЮДЗІ.
ДОБРА. ДОБРА, КАЛІ ВАМ АД ГЭТАГА БУДЗЕ ЛЕПШ, АДНАК ХАЦЯ Б ТРЫМАЙЦЕ ІХ ЗВОНКУ, ДАМОВІЛІСЯ? ПАДЭШВЫ ВАШЫХ БОТАЎ ПАДРАПАЛІ ЎСЮ ПАДЛОГУ. Я ТОЛЬКІ НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ ЯГО ЧЫСЦІЎ.
ПАДЭШВЫ. ЗРАЗУМЕЎ. Я ПЕРАПРАВЕРУ ЛІФТЫ.
ДОБРАГА ВЕЧАРА.


ДОБРЫ ВЕЧАР, ДЖЫМ.
БАЮСЯ СПЫТАЦЬ, ЯК ДОЎГА ТЫ САЧЫЎ ЗА РЭЗІДЭНЦЫЯЙ МЭРА?
ТАДЫ НЕ ПЫТАЙ.
ЁСЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ?
КРОЎ МЭРА ХЭЙДЗІ ЧЫСТАЯ. ЯГО ПАКАЗЧЫКІ Ў НОРМЕ. ВАДА ЧЫСТАЯ. У ВЕНТЫЛЯЦЫІ ЧЫСТА. АХОВА НА МЕСЦЫ.
ТАМУ НЕ. НІЧОГА. ЯК ТЫ?
ЖАХЛІВА...
...АЛЕ ДУМАЮ, ТЫ ГЭТА І САМ БАЧЫШ.
80
120 / 80
98
29
37.6
ШТО ЁН МЕЎ НА ЎВАЗЕ, КАЛІ КАЗАЎ, ШТО Ў ЦЯБЕ ЎЖО ЁСЦЬ ЯГО ВІЗІТОЎКА? ЁН КАЗАЎ ПРА СВОЙ ТВАР?
БЭТМЭН?
НЯ ВЕДАЮ, ДЖЫМ.


ДОБРА. Я ПАЙДУ НАЗАД.
ПА МНЕ Ж НЕ БАЧНА? У СЭНСЕ, НЕ ЧУТНА ПА ГОЛАСЕ?
НЕ БАЧНА.
СТРАХ...
...ДЖЫМ КАЖА ПРА СРАХ. СТРАХ ЗА ТЫХ, ХТО ТАБЕ ДАРАГІ. ЁН ВЕДАЕ ДЖОКЕРА АМАЛЬ ТАК ЖА, ЯК Я. УСЕ ЛЮДЗІ, САЮЗНІКІ, ЯКІХ ДЖЫМ СТРАЦІЎ З-ЗА ЯГО. ТЫЯ, КАГО ЁН ЛЮБІЎ, ЗМУЧАНЫ І ЗАБІТЫ.
ТЫМ НЕ МЕНШ, ЁН ВЕДАЕ, ШТО ГЭТА НЕЛЬГА ПАКАЗВАЦЬ. НЕ ТЫМ, КАГО ХОЧАШ АБАРАНІЦЬ. НІКОМУ. ТАМУ ТЫ РОБІШ ВЫГЛЯД, ШТО НЕ УСХВАЛЯВАНЫ. БЫЦЦАМ УЖО ЧУЎ УСЁ ГЭТА.
НАВАТ ЗАРАЗ, КАЛІ АДЧУВАЕШ, ШТО ЁН СТАЎ ЯШЧЭ ГОРШ. НЕЙКІМ ІНШЫМ. ПАДЛЕЙ І ЗЛЕЙ, ЧЫМ РАНЕЙ.
УСЁ ПАКАЗВАЕ НА ГЭТА... ПА-ПЕРШАЕ, ТВАР, КІНУТЫ, ЯК ВЫКЛІК. І ЗНІКНЕННЕ НА ЦЭЛЫ ГОД... А ЗАРАЗ І ТОЕ, ЯК ГРОЗНА ЁН ВЯРТАЕЦЦА.
УЛАСНЫМІ РУКАМІ КРЫШЫЦЬ ШЫІ АФІЦЭРАЎ ВА ЎЧАСТКУ. АДНАК ЗВЫЧАЙНА ЁН НЕ РОБІЦЬ СВАЮ Ж БРУДКУЮ ПРАЦУ.
ПАЎТОР ЯГО РАНЕЙШЫХ ЗЛАЧЫНСТВАЎ. НІШТО З ГЭТАГА НЕ ПАДОБНА НА ЯГО. І ЎЗГАДВАННЕ ВІЗІТОЎКІ...
НЕ...


ШТО ЗДАРЫЛАСЯ? МЭР?
НЕ...
...УСЕ АСТАТНІЯ!
ПАМАЖЫЦЕ МНЕЕЕ!
БЭТМЭН! К-К-К-КАЛІ ЛАСКА!


ДАСЫЛАЮ ЎЗОРЫ АТРУТЫ.
У ЯДА ПАДВОЙНЫ СКЛАД. АДНОЙ ЧАСТКАЙ БЫЎ ЭПІДЭРМІЧНЫ РАСТВОР, ЯКІ ЁН, ПЭЎНА, НАНЕС НА АДЗЕН-НЕ. ДВУГАЯ ЧАСТКА, ЯКАЯ АКТЫВУЕ, БЫЛА Ў СРОДКУ ДЛЯ МЫЦЦЯ ПАДЛОГІ, ЯКІ ВЫКАРЫСТОЎВАЎ МЭР.
ГЭТА ТАКСАМА ВАРЫЯЦЫЯ ТАКСІНА ТРЫЦЦАЦЬ ЧАТЫРЫ, АЛЕ ЎЗРОВЕНЬ ТРАПАНІНА БЫЎ ЗМЕНЕНЫ ТАКІМ ЧЫНАМ, КАБ ВЫКЛІКАЦЬ СКАРАЧЭННІ Ў ЦЯГЛІЦАХ ТВАРА, ЯКІЯ ЎТВАРАЮЦЬ...
ХМУРЫ ВЫРАЗ ТВАРА. ДАЙ МНЕ ШТО-НЕБУДЗЬ ЯШЧЭ. ШТО ЗАЎГОДНА.
ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, ГЭТА НЕВАЖНА, АЛЕ КАМПУТАР ЗНАЙШОЎ ТРЫ НЕІСТОТНЫХ КАМПАНЕНТА Ў СУМЕСІ. ТРЫ РЭЧЫВА, ЯКІЯ ЗДАЮЦЦА ПРОС-ТЫМІ ДАДАТКАМІ, НІЧОГА ФУНК-ЦЫЯНАЛЬНАГА. ХЛОР, ЭТАН І ЗВЫЧАЙНЫ АСПІРЫН.
...
СЭР?
ЗАГАЛОЎНЫЯ ЛІТАРЫ. ЁН ВЯР-ТАЕЦЦА ТУДЫ, ДЗЕ ЎСЁ ПАЧАЛОСЯ...


«…АСЭ»
ХІМЗАВОД
ДЖОКЕР.
Я ЧАКАЎ ЦЯБЕ, СТАРЫ СЯБАР…



Я ВЫРАШЫЎ, ШТО ГЭТА БУДЗЕ ІДЭАЛЬНЫМ МЕСЦАМ, КАБ ПАЧАЦЬ УСЁ СПАЧАТКУ.
ГЭТЫ ЗАВОД. ГЭТЫ ЦЭХ. ГЭТЫЯ БОЧКІ.
ДЗЕ ТЫ СКІНУЎ МЯНЕ З ГЭТАГА САМАГА МАСТКА, АКУНУЎ У АГНІ І СПАЛІЎ МОЙ ФАЛЬШЫВЫ ТВАР.
ДЗЕ ТЫ ПАКАЗАЎ МНЕ МАЮ СКУРУ ПДА СКУРУ.
НАВЯВАЕ ЎСПАМІНЫ, ТАК? МАЛЕНЬКАЕ ПАДАРОЖЖА ПА ДАРОЖЦЫ ЎСПА-МІНАЎ.
ТУТ ПАДАРОЖЖА, КАНЧАЕЦЦА, ДЖОКЕР.
ХАХАХАХА! О, ЯК Я ПА ТАБЕ НУДЗІЎСЯ, БЭТСССС. ЯК Я ЎСЁ ЯШЧЭ ПА ТАБЕ СУМУЮ.
ПА ТАБЕ САПРАЎДНАМУ. ТОМУ, ШТО ПАДНІЗАММ...
ВОСЬ ЧАМУ Я ЎШОЎ, РАЗУ-МЕЕШ?
Я БОЛЬШ НЕ МОГ ТРЫВАЦЬ ГЭТА. НУДЗІЦЦА ПА ТАБЕ. АЛЕ ЗАРАЗ Я ТУТ, СТУКАЮСЯ Ў ТВАЁ АКНО. ШУКАЮ ЦЯБЕ, СВОЙ ЦЕНЬ. КРЫЧУ, КАБ ТЫ ВЫЙШАЎ ПАЙ-ГРАЦЬ. ДЫК ТЫ БУДЗЕШ ГУЛЯЦЬ?
ТЫ БУДЗЕШ ГУЛЯЦЬ СА МНОЙ, ЯК У МІНУЛЫЯ ЧАСЫ?
ТЫ НЕ ЁН. ДЗЕ ЁН?!


ЗАНАДТА ПАВОЛЬНА, СТАКАН. ХАХАХА! ЗАНАДТА ПАВОЛЬНЫ, КАБ РАТАВАЦЬ ПАЛІЦЭЙСКІ. ЗАНАДТА ПАВОЛЬНЫ, КАБ РАТАВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ МЭРА! І ЗАНАДТА ПАВОЛЬНЫ, КАБ ГУЛЯЦЬ СА МНОЙ!
ТЫ СТАЎ ТОЎСТЫМ. МЯККІМ. ТАКІМ МЯККІМ, ШТО НЕ МОЖАШ НАВАТ БЕЗ ДАПАМОГІ СПЫНІЦЬ КУПКА ЛЯДАШЧЫХ ПТУШАК, КАБ ЯНЫ НЕ СЯЛІЛІСЯ Ў ТВАІХ СПІЧАКАХ. СОВЫ?
О БЭТССС, ТВАЁ КАРАЛЕЎСТВА ГНІЕ Ў ЦЯБЕ ПАД НАГАМІ. ГЭТА ПРЫМУШАЕ МЯНЕ ХМУРЫЦЦА, ХМУРЫЦЦА, ХМУРЫЦЦА ЯК ТЫХ ЛЮДЗЕЙ ПАД НАГАМІ МЭРА. ТАК МОЦНА ХМУРЫЦЦА, ШТО СВОДЗІЦЬ СКІВІЦУ. ХРАЦЬ!
ГЛЯЖУ НА ЦЯБЕ, І ХОЧАЦЦА ПАСТУКАЦЦА Ў ТВАЮ ЧАРАПУШКУ І СПЫТАЦЬ: «ХТО ТАМ? ХТО ГЭТА? ДЗЕ МОЙ СТАРЫ СЯБАР?»
ЭХ... АЛЕ НЕ ХВАЛЮЙСЯ!
ГЭТАЙ НОЧЧУ МЫ ЎСЁ ВЫПРАВІМ.
ТАМУ ШТО Я ТУТ! Я ВЯРНУЎСЯ, КАБ РАТАВАЦЬ ЦЯБЕ!
РАТАВАЦЬ ЦЯБЕ АД ТЫХ, КАГО ТЫ КЛІЧАШ СВАІМІ САЮЗНІКАМІ. СВАЁЙ СЯМ'ЁЙ. АД ТЫХ, ХТО РОБІЦЬ ЦЯБЕ ПАВОЛЬНЫМ. АД ТЫХ, ХТО РОБІЦЬ ЦЯБЕ СЛАБЫМ.
Я ТУТ, КАБ ЗНІШЧЫЦЬ ІХ, АДНАГО ЗА АДНЫМ...


...КАБ ТЫ ПЕРАРАДЗІЎСЯ ЯК ТАКІ ЧАЛАВЕК-КАЖАН, ЯКОГА ГЭТЫ ГОРАД ЗАСЛУГОЎВАЕ!
АДРОДЗІШСЯ Ў СЛАВЕ! СПАДЗЯЮСЯ, ТЫ ЎЗЯЎ СВАЕ КУПАЛЬНЫЯ ТРУСЫ! ХАХАХАХА!
ХАРЛІ! Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ ТАМ!
ЁН НЕ ТОЙ, БЭТС.
ГЭТА БОЛЬШ НЕ МОЙ МІСТАР ДЖЭЙ...
...І ТОЕ, ШТО ЁН ЗБІРАЕЦЦА ЗРАБІЦЬ З ТАБОЙ... ЯГО ПЛАН... Я НЕ МАГУ...
ДЗЕ ЁН, ХАРЛІ?!
СКАЖЫ МНЕ!


«ДЗЕ ДЖОКЕР?!»
СКРЯБ СКРЯБ
ШТО...
ВОСЬ ДЗЕ МАЁ МАЛЯ! Я ЎЖО ЎСЮДЫ АБШУ-КАЎСЯ!
БОЖА МОЙ...


DC Comics прадстаўляе Бэтмэна ў Смерць BATMAN Сям'і
ТУК ТУК
ЦЯПЕР, МІСТАР ПЕНІВОРТ, СКАЖЫЦЕ, КАЛІ ЎЖО ЧУЛІ ГЭТА!
ХА ХАХАХА ХАХА!
СТВОРАНА ПРЫ ЎДЗЕЛЕ:
Скот Снайдэр
Грэг Капула
Джонатан Глапіён
Франсіска Плассенсія
Рычард Старкінгс і
Джымі Бетанкорт
з Комікрафта
Кэці Куберт
Майк Мартс
ВОКЛАДКА:
Капула і
Плассенсія
Варыянт вокладкі:
Ааран Кудэр і
Нэйтан Фэйрбэйнр
БЭТМЭН
створаны
Бобам Кейнам
ДАЛЕЙ: АБДУРАНЫ ГОТЭМ!


ВЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ТУТ?
ПСТРЫК
ТАК. Я ТУТ. Я ЗАЎСЁДЫ ТУТ.
Я СУМАВАЛА ПА ВАС, ВЕДАЕЦЕ? ПРАЙШЛО БОЛЬШ ГОДА...
...АЛЕ Я ВАС НЕ БАЧУ... ВЫЙДЗЕЦЕ НА СВЯТЛО.
ДЗЕ...
НЕ ХВАЛЮЙСЯ. Я ПРАМА ТУУУУУТ. ПРАМА ЗА ТАБОЙ.
ПРОСТА РЫХТУЮСЯ ПАЧАЦЬ ВЕСЯЛОСЦЬ...
ТЫ НЕ УСХВАЛЯВАНА?
А ПАВІННА БЫ. Я ПРЫХАВАЎ ДЛЯ ЦЯБЕ ВАЖНУЮ РОЛЮ. ТОЛЬКІ ДЛЯ ЦЯБЕ. З САААААМАГА ПАЧАТКУ.
ШТО ВЫ ХОЧАЦЕ, КАБ Я ЗРАБІЛА?
ЗНІМІ СВАЮ ВОПРАТКУ.


ШТО Я ПАВІННА ЗРАБІЦЬ ДАЛЕЙ, МІСТАР ДЖЭЙ?
МІСТАР ДЖЭЙ? ДЗЕ ВЫ?
АПРАНІ ВОСЬ ГЭТА.
УПЭЎНЕНЫЯ, ШТО НЕ БУДЗЕ ВЕСЯЛЕЙ БЕЗ ГЭТАГА ПРЫКІДУ?
О НЕ... БУДЗЕ СТОЛЬКІ ВЕСЯЛОСЦІ. ВОСЬ ПАБАЧЫШ.
ТУТ ВЕЛЬМІ ШМАТ ПАДШЭЎКАЎ, МІСТАР ДЖЭЙ.
КАНЕШНЕ, ШМАТ!
І ПЛАТФОРМЫ Ў ГЭТЫХ ТУФЛЯЎ... Я БУДУ ВАШАГА РОСТУ... ВАШАГА ЦЕЛАСКЛАДУ. Я БУДУ ВЫГЛЯДАЦЬ ЗУСІМ, ЯК ВЫ.
ТААААК... У ГЭТЫМ УВЕСЬ СЭНС!


ЗУСІМ. ЯК. Я.
МЕНАВІТА ТАК І ПАВІННА БЫЦЬ! ЗАСТАЛАСЯ ТОЛЬКІ АДНА ДЭТАЛЬ.
ТВОЙ МІЛЕНЬКІ ТВАР... ЁН БРАКУЕ ВОБРАЗ. БАЮСЯ, ЯМУ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЗНІКНУЦЬ.
Я... Я НЕ РАЗУМЕЮ...
ТЫ ЗАЎСЁДЫ БЫЛА МАІМ ПРЫГОЖЫМ МАЛЕНЬКІМ МОНСТРАМ, ХАРЛІ.
Я ВЫЦЯГНУЎ ЦЯБЕ ПА КАВАЛКАХ СА СВАЁЙ ГРУДНОЙ КЛЕТЦЫ І ЗНОЎ СШЫЎ ПРЫГОЖЫЙ ІЛЖОЙ.
Я РАЗМАЗАЎ ТВОЙ ЗВЫЧАЙНЫ МОЗГ ПА ПАДЛОГЕ І ЗАМЯНІЎ ЯГО ЧЫМСЬЦІ ДЗІВОСНА НЕНАРМАЛЬНЫМ!
ТЫ МАЁ СТВАРЭННЕ, І КАЛІ ТЫ ХОЧАШ СЛУЖЫЦЬ МНЕ, МНЕ ТРЭБА, КАБ ТЫ БЫЛА... ДАСКАНАЛАЙ.
Я... Я НЕ ДУМАЮ, ШТО МАГУ ЗРАБІЦЬ ГЭТА, МІСТАР ДЖЭЙ.
О, АЛЕ ПАДУМАЙ ПРА ТОЕ, КОЛЬКІ ВЕСЯЛОСЦІ Ў НАС БУДЗЕ, КАЛІ ЗРОБІШ!



ВЫ ЎСЁ ЯШЧЭ БУДЗЕЦЕ ЛІЧЫЦЬ МЯНЕ ПРЫГОЖАЙ?
О, ХАРЛІ!
НЯЎЖО Я ХОЦЬ КАЛІСЬЦІ КАЗАЎ, ШТО ЛІЧУ ЦЯБЕ ПРЫГОЖАЙ?
ХАХА! ХА! ХА
БУДЗЕ БАЛЮЧА?
НАДЗВЫЧАЙ. БАЛЬНЕЙ ЗА ЎСЁ, ШТО БЫЛО Ў ТВАІМ ЖЫЦЦІ!
ГОРШ ЗА ЎСЁ ВАЧАМ... БЕЗ ВЕКАЎ ЯНЫ СТАНУЦЬ СУХІМІ І ПАКРЫЮЦЦА СКАРЫНКАМІ. ПРЫДЗЕЦЦА ПАЧАЦЬ НАСІЦЬ З САБОЙ КРОПЛІ ДЛЯ ВАЧЭЙ.
ХАХ!
АЛЕ Ў САМЫМ ПАЧАТКУ ЯНЫ БУДУЦЬ МІЛЫМІ І ВІЛЬГОТНЫМІ, ПАКУЛЬ ПА ІМ ЦЯЧЭ КРОЎ... РОБЯЧЫ СВЕТ НАВОКАЛ ЦЯБЕ ЧЫРВОНЫМ.
ЗАРАЗ ЛЕПШ ІХ ЗАПЛЮШЧЫЦЬ, ПАКУЛЬ У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ТАКАЯ МАГЧЫМАСЦЬ.
НЕ... Я НЕ ХАЧУ... Я НЕ ГАТОВА!


ААААААА!
ШЫНК
ВОСЬ...
...І ГАТОВА.
АЛЕ... Я НІЧОГА НЕ АДЧУЛА...
...ВЫ КАЗАЛІ, БУДЗЕ БОЛЬНА.
ХЕХЕХ... ФАЙНА Я ЦЯБЕ ПАДКАЛОЎ, ТАК?
ТВАЕ ВЕКІ ЎСЁ ЯШЧЭ НА МЕСЦЫ.
КАЛІ ЁН З'ЯВІЦЦА, БЯЖЫ, ПАКУЛЬ ЁН НЕ БУДЗЕ ПЕРАД МАЛАТКОМ. ПОТЫМ АДПУС-КАЙ ЯГО.
УЖО ПАВІННА БЫЦЬ, ХУТКА... БУДЗЕ ВЕСЕЛА...

